

Праваабарончы
інфармацыйны бюлетэнь
Берасьцейшчыны

№ 2 (люты), 2014

# Мяжа



## Затрыманне ў Брэсце
## на акцыі салідарнасці з Украінай

(Старонка 2)

# ЗЬМЕСТ

# Уладзіміра Вуека выклікаюць у міліцыю за збор подпісаў

У суд Ленінскага раёна Берасця выклікаюць старшыню абласной арганізацыі Аб'яднанай Грамадзянскай партыі Уладзіміра Вуека. Прычына - правядзенне 30 студзеня нібыта ў забароненым месцы пікета па зборы подпісаў за вылучэнне кандыдатаў ад кааліцыі “Талака”.

Уладзімір Вуек адзначыў, што такім чынам прадстаўнікі праваахоўных органаў парушаюць беларускае заканадаўства:

- Атрымліваецца, што з аднаго боку група па вылучэнні кандыдата ў дэпутаты павінна ўзгадняць з гарвыканкамам, з ідэалагічным аддзелам тыя месцы, дзе яны дазваляюць збіраць подпісы. Але цяпер атрымліаецца, што не мае значэнне, што гэтае месца дазволенае або забароненае, то бок выціскаюць, не даюць праводзіць мерапрыемствы, якія нам гарантаваныя законам.

30 студзеня супрацоўнікі праваахоўных органаў спрабавалі перашкодзіць правесці пікет, перапісалі пашпартныя дадзеныя некалькіх актывістаў. Мерапрыемства праводзілася ў дазволеным уладамі мецы – па вуліцы 17 верасня каля Цэнтральнага ўнівермага.

*http://www.racyja.com/index.php?id=105&zoom=22402#.Uw5OoM4qMZI*

# Затрыманне ў Брэсце на акцыі салідарнасці з Украінай

Каля 20 брэстаўчан, неабыякавых да трагічных падзей у суседняй краіне, 21 лютага ўusклалі кветкі і запалілі знічы каля помніка Шаўчэнку.

Пазней яны рушылі да консульства Украіны, дзе наладзілі хвіліну маўчання. Маладыя людзі зачыталі спіс загінулых на Еўрамайдане, усклалі кветкі і запалілі знічы ля ўваходу ў будынак.

Пасля гэтага да іх падышлі трое супрацоўнікаў міліцыі, якія растлумачылі, што дзеянні маладых людзей з'яўляюцца пікетам і парушаюць парадак правядення масавага мерапрыемства. Міліцыянеры перапісалі ў прысутных дадзеныя, а грамадскага




актывіста Яўгена Скрабца затрымалі і прывезлі ў Ленінскі РУУС.

Як паведаміў Еўрарадыё сам затрыманы, міліцыянты склалі на яго пратакол апытання. У 19.40 ён пакінуў пастарунак міліцыі.

*http://euroradio.fm/zatrymanne-u-bresce-na-akcyi-salidarnasci-z-ukrainay-fota*

## «Вясна» судзіцца з пракуратурай за сайт

18 лютага суд Цэнтральнага раёну Менска разглядае скаргу намесьніка старшыні Праваабарончага цэнтру «Вясна» на рашэньне Генпракуратуры ўнесьці сайт spring96.org у сьпіс абмежаванага доступу для інтэрнэт-карыстальнікаў.

**Валянцін Стэфановіч**: «Рашэньне для мяне прадказальнае. Але ім суд фактычна ўхіліўся ад ацэнкі законнасьці пастановы Генэральнай пракуратуры і адмовіў мне ў правасудьдзі. Я буду абскарджваць рашэньне ў Менскім гарадзкім судзе. Калі не — далей буду зьвяртацца ў Камітэт па правах чалавека ААН».

*http://www.svaboda.org/contentlive/liveblog/25267465.html*

## 21-га лютага міжнародная супольнасць адзначыць Дзень роднай мовы

Як адзначае старшыня Таварыства беларускай мовы Алег Трусаў, на гэты раз тэксты для агульнанацыянальнай дыктоўкі прадстаўленыя з творчасці Васіля Быкава, чый 90-гадовы юбілей адзначаем сёлета. На радзіме Быкава, Віцебшчыне, сёння і пішуць дыктоўку першымі. Таксама ў час сёлетняй дыктоўкі будзе апрабаванае ноу-хау, распавёў Алег Трусаў:

- Першы раз зробім такую дыктоўку. Мы знялі на камеру маю намесніцу Алену Анісім, якая чытае тэкст. Паставім гэты запіс на партал, і той, хто ўключыць партал, зможа дыктоўку напісаць і дома. Так што заклікаем усіх у Дзень роднай мовы напісаць дыктоўку з нагоды юбілея Васіля Быкава па ягоных творах. Мы ўзялі “Знак бяды”, “Сотнікаў” і “Доўгая дарога дадому”.

Таварыства беларускай мовы звяртаецца да ўсіх грамадзян Беларусі, а таксама прыхільнікаў беларушчыны за мяжой з просьбай выказаць у гэты дзень сваю падтрымку жывому беларускаму слову.

*http://www.racyja.com/index.php?id=103&zoom=22191#.UwO92-db_xh*

## У Брэсце судзяць сваяка партызанскага камандзіра-героя



Пра гэта Еўрарадыё распавяла прыёмная маці падсуднага.

Суд Брэсцкага раёна пачаў разглядаць справу Аляксандра Варвашэні. Яго вінавацяць у тым, што нібыта ў траўні 2012 года ён спрабаваў разам са знаёмым Віталём Каўшом па канаце пераправіць васьмярых індусаў цераз беларуска-польскую мяжу.

Любоў Варвашэня распавяла ў каментары Еўрарадыё:

Любоў Варвашэня: "Бацька майго мужа і Іван Дзянісавіч

Варвашэня былі стрыечныя браты. Яны з Мінскай вобласці, Копыльскага раёна. Іван Дзянісавіч быў першым сакратаром Мінскага абкама партыі. У вайну быў адным з кіраўнікоў партызанскага руху на Міншчыне. Муж быў вайскоўцам. Быў на Дальнім Усходзе, потым перакінулі на Украіну, а адтуль у Брэст".

Нагадаем, імя Івана Варвашэні носіць адна з вуліц у цэнтры Мінска.

Аляксандр Варвашэня ў сувязі са "справай індусаў" быў аб'яўлены ў вышук. Ён добраахвотна з'явіўся ў міліцыю адразу пасля паўторнага абвінаваўчага прысуда Віталю Каўшу ў верасні 2013 года. Мэтай сваё яўкі ён назваў памкненне да справядлівасці.

Дарэчы, Віталь Коўш асуджаны на чатыры гады калоніі строгага рэжыму з канфіскацыяй маёмасці.

*http://euroradio.fm/u-bresce-sudzyac-svayaka-partyzanskaga-kamandzira-geroya*

## Аляксандр Сахарук: Пра "аўганцаў" згадваюць толькі 15 лютага



15 лютага спаўняецца 25 гадоў з дня вываду савецкіх войскаў з Афганістана. Праз гэтую вайну прайшлі трыццаць тысяч беларусаў. Звыш 700 не вярнуліся з той вайны. Пра тых, хто вярнуўся з пекла, дзяржава ўспамінае толькі ў гэты дзень, кажа былы камандзір аддзялення інжынернай выведкі, узнагароджаны медалём "За адвагу" Аляксандр Сахарук:

- Я магу сказаць, што ніякіх адносіць улада да нас цяпер не мае. У плане, каб недзе абараніць, дапамагчы – гэтага не адбываецца. Толькі ў гэты дзень нас збяруць, нагавораць словаў – маўляў, Радзіма нас паслала і мы там нешта абаранялі. А праз гадзіну – мы забытыя і непатрэбныя.

Пасля 10-ці гадоў вайны савецкія ваенныя пакідалі Афганістан

не пераможцамі і не пераможанымі. Пры савецкім часе ветэраны-афганцы мелі ільготы, якія ў сучаснай Беларусі скасаваныя, акрамя выходнага дня 15 лютага і невялікай грашовай узнагароды. А адзін з іх, Мікалай Аўтуховіч, сядзіць 5 год у турме за знойдзеныя ў яго кватэры 5 патронаў, кажа Аляксандр Сахарук.

*http://www.racyja.com/index.php?id=105&zoom=22126#.Uv551edb_xh*

## Камуналка падаражэе 1 сакавіка, а потым зноў і зноў

Тарыфы на жыллёва-камунальныя паслугі будуць індэксавацца чатыры разы ў год.

Індэксацыя субсідаваных дзяржавай тарыфаў (коштаў) жыллёва-камунальных паслуг (ЖКП) для насельніцтва будзе праводзіцца штоквартальна - з 1 сакавіка, 1 чэрвеня, 1 верасня і 1 снежня.

Гэтая норма закладзеная ў палажэнні аб парадку індэксацыі гэтых тарыфаў, якое зацверджана пастановай Савета Міністраў Беларусі №96 ад 5 лютага 2014 года і апублікаванае ў суботу на Нацыянальным прававым інтэрнэт партале.

Індэксацыя тарыфаў праводзіцца штоквартальна з 1 сакавіка, 1 чэрвеня, 1 верасня і 1 снежня на паслугі:

- Газазабеспячэння, электразабеспячэння і цеплазабеспячэнні Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь;

- Вывазу, абясшкоджванні і перапрацоўцы цвёрдых камунальных адкідаў аблвыканкамамі і Менскім гарвыканкамам;

- Тэхнічнага абслугоўвання жылога дома, водазабеспячэння, водаадвядзення (каналізацыі), карыстанне ліфтам аблвыканкамамі і Менскім гарвыканкамам

- Паводле ўзгаднення з Міністэрствам эканомікі.

Для індэксацыі тарыфаў ужываюцца індэксы змены субсідаваных дзяржавай тарыфаў (коштаў) жыллёва-камунальных паслуг для насельніцтва, што вызначаюцца з улікам росту даходаў насельніцтва на падставе індэксаў намінальнага налічанага сярэднямесячнага заробку за квартал, які папярэднічае індэксацыі тарыфаў, у суме, якія не перасягаюць паказаны індэкс:

Міністэрствам эканомікі супольна з Міністэрствам жыллёва-камунальнай гаспадаркі і Міністэрствам энэргетыкі на паслугі газазабеспячэння, электразабеспячэння, цеплазабеспячэння, тэхнічнага абслугоўвання жылога дома, водазабеспячэння, водаадвядзення (каналізацыі), карыстанне ліфтам;

аблвыканкамамі, Мінскім гарвыканкамам - на паслугі вывазу, абясшкоджванні і перапрацоўцы цвёрдых камунальных адкідаў.

Індэкс намінальнага налічанага сярэднямесячнага заробку разлічваецца Нацыянальным статыстычным камітэтам зыходзячы з тэмпаў росту намінальнага налічанага сярэднямесячнага заробку ў Рэспубліцы Беларусь за справаздачны квартал у дачыненні да папярэдняга кварталу.

Індэксацыя тарыфаў праводзіцца, калі індэкс намінальнага налічанага сярэднямесячнага заробку за справаздачны перыяд перасягае 100 адсоткаў.

Тарыфы, праіндэксаваныя Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь, аблвыканкамамі і Менскім гарвыканкамам у адпаведнасці з дадзенымі заканадаўствам паўнамоцтвамі, з'яўляюцца базавымі для іх наступнай індэксацыі або падвышэння.

Пастанова ўваходзіць у дзеянне пасля яе афіцыйнага апублікавання.

*http://charter97.org/be/news/2014/2/8/86145/*

## З фармаваннем участковых выбарчых камісій у Бярозе нічога не змянілася

Створаны камісіі па ранейшаму прынцыпу: калектыў – кіраўнік, які звычайна бывае старшынёю камісіі.

Напрыклад, участковая выбарчая камісія № 11 (цэнтр: адміністрацыйны корпус УАЗ "Бярозаўская ЦРБ"). Рашэннем Бярозаўскага райвыканкаму камісія створана з 11 чалавек: прадстаўнікоў ад працоўных калектываў аддзяленняў установы аховы здароўя «Бярозаўская цэнтральная раённая бальніца» — 7 чалавек, прадстаўнікоў грамадскіх аб'яднанняў — 4 чалавекі, трое з якіх працуюць у бальніцы. Месца працы 4-га мясцовыя

назіральнікі не змаглі ўстанавіць. І ніводнага прадстаўніка грамадзянаў ад 1 899 выбаршчыкаў, што пражываюць на гэтым выбарчым участку. Так, у склад камісіі не была ўключана вылучэнка ад грамадзян Тамара Шчапёткіна. Пры гэтым ва ўчастковую выбарчую камісію суседняга ўчастка для галасавання № 5 (цэнтар: адміністрацыйны будынак ААТ “Бярозаўскі сырадзельны камбінат”) нішто не перашкодзіла ўключыць 15 чалавек (на 1895 выбаршчыкаў).

Т. Шчапёткіна не першую выбарчую кампанію робіць спробу ўвайсці ў склад выбарчых камісій рознага ўзроўню шляхам збору подпісаў ад грамадзян. Але ўлада ігнаруе жаданне як самой Шчапёткінай, так і вылучыўшых яе грамадзян, спасылаючыся на тое, што ў камісіях патрэбны людзі з вопытам, які набыць у падобных варунках проста немагчыма.

Шчапёткіна Т. мае вышэйшую адукацыю, была дэпутаткаю Белаазёрскага гарадскога Савета дэпутатаў, неаднойчы -- назіральнікам на выбарчых участках Белларусі, а таксама міжнародным назіральнікам за выбарамі.

*http://spring96.org/be/news/69025*

## Берасьцейскую крэпасьць бароняць ад Мінкульту ў судзе

Сябра Беларускага таварыства аховы помнікаў судзіцца зь Мінкультам.

Часам толькі праз суд можна дамагчыся адказу ад чыноўнікаў. Гэта паказаў унікальны судовы працэс, як пачаўся ў Менску.

Пазоў у суд Цэнтральнага раёну Менску падаў сябра Беларускага добраахвотнага таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры, жыхар Берасьця Дзяніс Турчаняк. Адказчык — Міністэрства культуры.

Актывіст просіць суд адмяніць рашэньне Міністэрства культуры, якім дадзены дазвол на будаўніцтва аўтамабільнага моста праз водны канал вакол Берасьцейскай крэпасьці ў месцы Кобрынскагаўмацаваньня.

Паводле Дзяніса Турчаняка, гістарычныя зьвесткі сьведчаць, што даўнейшы мост быў у іншым месцы. Будаўніцтва моста зьмяняе аблічча мэмарыялу. Акрамя таго, на тэрыторыі помнікаў гісторыі, культуры і архітэктуры найвышэйшай катэгорыі, да якой належыць Берасьцейская крэпасьць, новабудоўлі забароненыя. Рашэньне Мінкульту не было ўзгодненае з адмыслоўцамі Навукова-мэтадычнай рады.

Як паведаміў у судзе Дзяніс Турчаняк, з нагоды гэтага будаўніцтва Сьледчы камітэт у Берасьці распачаў крымінальную справу. Заяву ў Генэральную пракуратуру напісаў і старшыня Таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры Антон Астаповіч.

Прадстаўніца Міністэрства культуры, намесьніца старшыні ўпраўленьня па ахове гісторыка-культурнай спадчыны Аксана Сматрэнка, у сваю чаргу, заявіла ў судзе, што яшчэ ў 2010 годзе Навукова-мэтадычная рада ўхваліла канцэпцыю разьвіцьця мэмарыяльнага комплексу «Берасьцейская крэпасьць», а рэканструкцыю паасобных элемэнтаў Мінкульт мае права не ўзгадняць. Месца ж, у якім будуецца мост, паводле спадарыні Сматрэнкі, не зьяўляецца помнікам найвышэйшай катэгорыі, хоць і знаходзіцца на ягонай тэрыторыі.

Як паведаміў Свабодзе Дзяніс Турчаняк, ён задаволены пачаткам судовага працэсу, бо адзінай магчымасьцю для грамадзянаў задаць чыноўнікам пытаньні і атрымаць адказы застаўся суд.

Ён перакананы, што судовы разбор павінен змусіць дзяржаўных чыноўнікаў больш адказна ставіцца да рашэньняў, якія яны прымаюць.

Старшыня Беларускага таварыства аховы помнікаў Антон Астаповіч, які ў судзе выступае як прадстаўнік Дзяніса Турчаняка, паведаміў, што гэта першы прэцэдэнт у сучаснай Беларусі, калі грамадзянін прыцягвае да суду міністэрства, каб абараніць гісторыка-культурную спадчыну краіны. Паводле Антона Астаповіча, гэта першы крок у справе пераходу ад лёзунгаў і

дэкларацыяў у справе абароны нацыянальных каштоўнасьцяў да практычных захадаў. Ён таксама падкрэсьліў, што Дзяніс Турчаняк мае патрэбу ў юрыдычнай і фінансавай дапамозе, бо ўсе судовыя і юрыдычныя выдаткі нясе самастойна. У гэтай сувязі Антон Астаповіч заклікаў неабыякавых людзей падтрымаць актывіста, каб супольна бараніць нацыянальную спадчыну.

У судовым працэсе абвешчаны перапынак да 25 лютага.

*http://www.svaboda.org/content/article/25253659.html*

## Праваабаронца: плата за паліклініку — толькі пасьля зьменаў у Канстытуцыі

У Беларусі за наведваньне паліклінікі трэба браць грошы, лічыць Зьміцер Шаўцоў, сябра камісіі Палаты прадстаўнікоў па ахове здароўя, старшыня Беларускай асацыяцыі лекараў.

Праваабаронца Алег Гулак кажа, што такія ідэі не адпавядаюць законам.

Шаўцоў у інтэрвію праграме АНТ «Контуры» заявіў, што ў практыцы любой амбуляторыі сустракаюцца пацыенты, якія прыходзяць на прыём больш за сто разоў за год без асаблівых прычынаў: «Проста яны так хочуць. Яны хочуць прыйсьці памераць ціск замест таго каб купіць таномэтар, проста спытаць, проста пачытаць, інтэрпрэтаваць аналізы, перапытаць, што лекар сказаў на мінулым прыёме».

Алег Гулак «Што робіцца ў кабінэце ў лекара? Вядзе

прыём доктар, мэдсястра, сядзіць пацыент і яшчэ там жа як мінімум два чалавекі зайшлі «проста спытаць», — апісвае Шаўцоў працоўныя будні ў паліклініках.

«Такога быць не павінна. Безумоўна, гэта выліваецца ў раздражняльнасьць і пацыента, і лекара, высокую нагрузку, таму што лекар ня можа засяродзіцца на адной праблеме, паставіць дакладны дыягназ».

Дэпутат перакананы, што нават сымбалічная плата за візыт у паліклініку адразу б адрэгулявала ня толькі колькасьць візытаў у паліклініку, але і стаўленьне людзей да ўласнага здароўя:

«Мы няправільна разумеем фразу „бясплатная мэдыцына“. Яна не бывае бясплатнай. Яна бясплатная для нас з вамі, але для дзяржавы гэта каштуе калясальных грошай. І часам мы марнатраўна ставімся да ўласнага здароўя і па-спажывецку — да сыстэмы аховы здароўя. Гэта недапушчальна. Чалавек не павінен даводзіць сябе да сытуацыі, калі ён становіцца жыхаром паліклінікі», — цытуе дэпутата Шаўцова БелТА.

Алег Гулак, кіраўнік праваабарончай арганізацыі «Беларускі Хэльсынскі камітэт», перакананы, што «калі ўвесьці аплату, то гэта пэўным чынам паўплывае на сытуацыю: людзі будуць меней наведваць паліклінікі і бюджэт будзе напаўняцца». Аднак такое рашэньне будзе супярэчыць закону:

«Гэта парушэньне Канстытуцыі, якая цяпер дзейнічае. Мяняйце Канстытуцыю, а пасьля рабіце такое. Магчыма, гэта і выгадна з эканамічнага пункту гледжаньня, але тады трэба крыху па-іншаму падаваць тэзу пра сацыяльную дзяржаву», — адзначае Гулак.

«У сацыяльнай сфэры ў нас даўно ўжо ідзе дзіўная падмена паняткаў. Прыкладам, бясплатная адукацыя стала называцца „адукацыяй за кошт бюджэту“. За яе выпускнікі расплачваюцца разьмеркаваньнем. Неяк Тозік (намесьнік кіраўніка ўраду Анатоль Тозік. — РС) казаў пра „суфінансаваньне бясплатнай мэдычнай дапамогі“. Гэта падман! Такія людзі добра ведаюць, што ў бясплатнай мэдыцыне ёсьць адна вельмі істотная якасьць — за яе не патрабуюць грошай», — заявіў праваабаронца Алег Гулак у інтэрвію Радыё Свабода.

*http://www.svaboda.org/content/article/25251161.html*

## Пачалася падрыхтоўка да Дня Волі

Правесьці шэсьце і мітынг на Дзень Волі ў Менску вырашана на першым паседжаньні аргкамітэта 27 лютага.

У аргкамітэце бяруць удзел Партыя БНФ, Аб’яднаная грамадзянская партыя, БСДП, кампанія «Гавары праўду» і рух «За свабоду».

Арганізатары прапануюць удзельнікам вывучыць гімн «Мы выйдзем шчыльнымі радамі» і сьпяваць яго падчас шэсьця і мітынгу. Збор адбудзецца на пляцоўцы каля Акадэміі навук, шэсьце накіруецца да плошчы Якуба Коласа.

Арганізатары пакуль ня вызначыліся з датай правядзеньня шэсьця ў Менску. Праз тое, што 25 сакавіка выпадае на будні дзень, яно можа адбыцца альбо днём 23 сакавіка, альбо ўвечары 25 сакавіка.

Заяўку на правядзеньне акцыі арганізатары пададуць у Менгарвыканкам на наступным тыдні.

Старшыня Партыі БНФ Аляксей Янукевіч у інтэрвію Радыё Свабода адзначыў, што ў 2014 годзе ёсьць дадатковая нагода асаблівым чынам адзначыць Дзень Волі — гэта 500-годзьдзе бітвы на Крапівенскім полі.

«У 2014 годзе мы сьвяткуем юбілей слаўнай бітвы пад Воршай. Няхай гэтая перамога была здабытая 500 гадоў таму, але здабытая яна была ў вельмі складаных і неспрыяльных умовах. І прыклад выдатных ваяроў Канстанціна Астрожскага натхняе нас і сёньня на змаганьне за нацыянальныя каштоўнасьці і свабоду. Таму сёлета ў Дзень Волі мы будзем ня толькі сьвяткаваць чарговыя ўгодкі заснаваньня БНР, але і хочам заклікаць усіх беларусаў, для каго дарагая свабода і незалежнасьць, не баяцца неспрыяльных умоваў і не засмучацца, таму што ізноў расейская імпэрыя прыцэльваецца на Беларусь. Нават у такіх умовах можна перамагаць, і мы абавязкова пераможам», — сказаў Аляксей Янукевіч.

Наступнае паседжаньне аргкамітэта заплянаванае на 3 сакавіка, калі і стане вядомай дата шэсьця.

*http://www.svaboda.org/content/article/25280006.html*

## Цэнзура на дзяржаўным радыё

Выступы кандыдатаў у дэпутаты ад дэмакратычных сілаў па радыё ў Берасці праходзяць цэнзуру. Так у звароце да выбаршчыкаў вылучэнца ў мясцовыя саветы ад партыі левых

“Справядлівы свет” Людмілы Дзенісенкі былі выразаныя словы пра неабходнасць правядзення сапраўдных дэмакратычных выбараў у краіне. Палітык распавяла пра тое, што адбылося ў часе запісу на дзяржаўным радыё:

-Я выступала па радыё, і калі папрасіла дэпутатаў не галасаваць датэрмінова, гэтую частку майго выступу выразалі. Таму што згодна з новым выбарчым кодэксам – гэта лічыцца заклікам не ісці на выбары. Хоць я лічу, датэрміновыя выбары – гэта нонсанс, якога не мусіць быць у нашым Выбарчым кодэксе.

Людміла Дзенісенка лічыць, што за грошы людзей, якія плацяць падаткі, - выбарцаў, грамадзян Рэспублікі Беларусь павінен быць таксама забяспечаны прапарцыйны доступ да выступу па дзяржаўнаму тэлебачанню, як у прадстаўнікоў дзеючай улады.

*http://www.racyja.com/index.php?id=104&zoom=22450#.UxDa8udb_xh*

## Улады Берасця пераследуюць актывістаў АГП за дазволены пікет

Па просьбе ідэалагічнага аддзела Берасцейскага гарадскога выканаўчага камітэта суд не ўзбудзіў справы па нібыта незаконнаму пікету і адправіў дакументы на дапрацоўку. Мерапрыемства праводзілася 30 студзеня ў межах выбарчай кампаніі кааліцыяй “Талака”.

Старшыня Берасцейскай абласной арганізацыі Аб’яднаная грамадзянская партыя Уладзімір Вуек адзначыў, што пікет быў цалкам законным, а мясцовыя ўлады сваімі дзеяннямі парушаюць канстытуцыйныя правы грамадзян:

- Мне незразумела, чаму пратакол складае ідэалагічны аддзел, і якім чынам ён праводзіць гэтую працэдуру, што менавіта я парушаў. Я карыстаўся сваімі законнымі правамі - права атрымліваць і распаўсюджваць інфармацыю, права на мірныя сходы. Больш за тое, гэта быў пікет у дазволеным гарвыканкамам месцы, які праводзіўся ініцыятыўнай групай кандыдата ад Аб’яднанай грамадзянскай партыі.

Берасцейскі праваабаронца Уладзімір Вялічкін адзначыў, што ціск на прадстаўнікоў дэмакратычных сіл у часе выбарчых

кампаній набывае сістэматычнасць:

- Часцей за ўсё гэткія спрэчкі высмактаныя з пальца, маюць пад сабой мэту перашкодзіць грамадзянам з апазіцыйнай партыі ў правядзенні выбарчай кампаніі - гэта адна мэта. Другая, асноўная мэта - гэта ўсё ж такі ціснуць на свядомасць грамадзян, запалохваць жыхароў горада, каб яно не ўдзельнічала ў выбарах на баку апазіцыі, не праяўляла сваёй грамадска-палітычнай актыўнасці.

Пікет, вакол законнасці якога ўзнікла спрэчка, быў праведзены кааліцыяй "Талака" ў дазволеным уладамі месцы – каля Цэнтральнага ўнівермага па вуліцы 17 верасня. У межах мерапрыемства актывісты таксама збіралі подпісы супраць увядзення пошліны на аўто.

*http://www.racyja.com/index.php?id=104&zoom=22455#.UxDa8edb_xh*

## Дзень нараджэння Кастуся Каліноўскага



176 гадоў таму нарадзіўся лідар нацыянальна-вызваленчага паўстання ў Літве і Беларусі.

Бацькам Кастуся Каліноўскага быў беззямельны шляхціц з Гародні, уладальнік невялікай ткацкай мануфактуры Сямён Каліноўскі. Маці, Вераніка Рыбінская, памерла, калі сыну было 5 гадоў.

Будучы лідэр паўстанцаў нарадзіўся ў маёнтку Мастаўляны на Гарадзеншчыне 1 лютага 1838 г.

У 1856-1860 гадах, пасля заканчэння Свіслацкай гімназіі, ён навучаўся на юрыдычным факультэце Петэрбуржскага ўніверсітэта. У студэнцкія гады разам са старэйшым братам Віктарам актыўна ўдзельнічаў у дзейнасці студэнцкіх зямляцтваў і ў рэвалюцыйных гуртках.

Адразу пасля вяртання на радзіму ў 1861 годзе Каліноўскі разам

са сваімі паплечнікамі стварыў рэвалюцыйныя гурткі ў Гарадзенскай і Віленскай губернях, якія ўвайшлі ў адзіную канспірацыйную арганізацыю.

У 1862 ён стаў на чале кіраўнічага органа гэтай арганізацыі Камітэта руху, які пазней стаў Літоўскім правінцыйным камітэтам паўстання.

У 1862-1863 кіраваў выданнем і распаўсюдам «Мужыцкай праўды» - першай нелегальнай рэвалюцыйнай газэты на беларускай мове.

Узначаліўшы ў 1863 паўстанне супраць расейскіх улад у Беларусі і Літве, Каліноўскі выступіў за шырокае далучэнне да барацьбу сялян, за пашырэнне паўстання на ўсход і на поўнач - на тэрыторыю Расеі.

Пры тым, што ён уважаў за патрэбу шчыльную злучнасць з паўстанцамі ў Польшчы, Каліноўскі паслядоўна заклікаў да незалежнасці Літвы-Беларусі. «Кастусь Каліноўскі з настроем герцэнаўскай школы на чале славалюбных асоб з чырвоных літвінаў настойліва праводзіў ідэю аб самастойнасці Літвы», - пісалі пра яго ў рапартах віленскаму генерал-губернатару.

У варунках жорсткіх дзеянняў урадавых сіл, знаходзячыся ў глыбокім падзем'і, Каліноўскі кіраваў паўстанцамі да свайго арышту ў канцы студзеня 1864 года.

Прысуджаны да смерці, Каліноўскі працягваў барацьбу, звяртаючыся да народа з «Лістамі з-пад шыбеніцы».

У іх ён заклікаў не прызнаваць расейскую ўладу і ваяваць «за свайго Бога, за сваё права, ... за сваю Радзіму".

Кастуся Каліноўскага пакаралі смерцю ў Вільні ў 1864 годзе.

*http://charter97.org/be/news/2014/2/2/85590/*

**Кантакты:**

**e-mail:** viasna_bierascie@hotmail.com

**Наклад 299 асобникаў**

Праваабарончы
інфармацыйны бюлетэнь
Берасьцейшчыны
«Мяжа»